


№ 3 сакавік 2012 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына
## Краязнаўчая

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі***
***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

***Усё ў тым краі сэрцу міла,***
***Бо я люблю край родны мой…***
*Канстанцыя Буйло*

## У НУМАРЫ:



**С. 2. IV Раённая навукова-практычная канферэнцыя школьнікаў**



**С. 3-5. Вывучэнне германскага ўмацаванага раёна I Сусветнай вайны паміж возерам Задзеўскае і вёскай Дукі вучнямі Пастаўскай раённай гімназіі**



**С. 6-7. Гісторыка-геаграфічнае апісанне вёскі Вялікія Споры Пастаўскага раёна**



**С. 8. Гісторыка-геаграфічны аналіз назваў вуліц мястэчка Паставы канца XVIII стагоддзя**

# IV РАЁННАЯ НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ШКОЛЬНІКАЎ

Апошнім часам назіраецца выяўная тэндэнцыя змяншэння цікавасці моладзі да грамадскіх і сацыяльных праблем, да праблем мясцовай супольнасці; прасочваецца пашырэнне абыякавасці і нігілізму да пытанняў, звязаных з патрыятызмам і нацыянальна-дэмакратычнымі каштоўнасцямі.



Сучасныя варункі жыцця, развіццё інтэрнета і мабільнай сувязі выштурхоўвае моладзь са сферы рэальнага грамадскага жыцця ў сацыяльныя сеткі, дзе віртуальны ландшафт слаба звязаны са штодзённым наваколлем. Таму, вельмі важна зацікавіць школьнікаў сярэдніх і старэйшых класаў існуючымі праблемамі мясцовай супольнасці і далучыць іх да працэсу развязвання гэтых праблем. Назіраецца тэндэнцыя паступовага пашырэння колькасці і якасці розных творчых конкурсаў, навуковых канферэнцый, аглядаў, прэзентацыі і іншых форм павышэння актыўнасці вучняў.

У гэтым рэчышчы на Пастаўшчыне актыўна працуе значная частка школ. У іх настаўнікі з вучнямі праводзяць сапраўдныя навуковыя даследаванні, рыхтуюць справаздачы, вучацца афармляць і абараняць вынікі сваіх вышукаў. У Пастаўскай раённай гімназіі 22 сакавіка 2012 года прайшла IV раённая



навукова-практычная канферэнцыя школьнікаў. На ёй было прадстаўлена даволі многа цікавых дакладаў з розных прадметных галін, якія прадстаўляліся ў гісторыка-краязнаўчай, натуральна-матэматычных дысцыплін, лінгвістычнай, філалагічнай секцыях. Адной з самых прадстаўнічых была першая з іх.

Краязнаўства, відавочна, адзін з дзейсных шляхоў, які дае магчымасць зацікавіць маладых людзей той жыццёвай прасторай, у якой яны жывуць зараз, тымі праблемамі, якія з’яўляюцца актуальнымі. Да таго ж, значная частка ўдзельнікаў у



сваіх выступах выкарыстоўвала беларускую мову, што яшчэ раз засведчыла яе шырокія магчымасці не толькі ў побытавай сферы, але і ў навуковай. У выніку, журы вызначыла пераможцамі даследчыя работы вучняў пастаўскай раённай гімназіі Дзіяны Гінько з дакладам “Гісторыка-геаграфічнае апісанне вёскі Вялікія Споры” і Іллі Мачанскага і Рамана Чыпко “Даследаванні германскага ўмацаванага раёна 1 сусветнай вайны паміж возерам Задзеўскае і вёскай Дукі”.

## ВЫВУЧЭННЕ ГЕРМАНСКАГА ЎМАЦАВАНАГА РАЁНА ЧАСОЎ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ ПАМІЖ ВОЗЕРАМ ЗАДЗЕЎСКАЕ І ВЁСКАЙ ДУКІ

*Ілля Мачанскі*
*Раман Чыпко*
*вучні 9»А» класа Пастаўскай раённай гімназіі*

У сучасным складаным і нестабільным свеце, калі ў шэрагу краін адбываюцца ўзброеныя канфлікты, калі існуе небяспека ўзнікнення лакальных і рэгіянальных войн вельмі актуальным з'яўляецца вывучэнне гістарычных падзей мінулага. У нашым рэгіёне свой трагічны след гісторыя пакінула падзеямі і помнікамі Першай сусветнай вайны, і, асабліва, Нарачанскай аперацыі. На тэрыторыі Пастаўскага раёна падзеі таго часу вывучаны пакуль слаба.

Мэта даследавання: на падставе літаратурных крыніц, аналіза гістарычных карт і шляхам правядзення краязнаўчай экспедыцыі правесці вывучэнне германскага ўмацаванага раёна часоў Першай сусветнай вайны паміж возерам Задзеўскае і вёскай Дукі.

У працэсе пошукаў вырашаліся наступныя задачы:

1. Вывучыць літаратурныя крыніцы, якія датычацца падзей Першай сусветнай вайны ў ваколіцах горада Паставы;
2. Прааналізаваць гістарычныя карты часоў Першай сусветнай вайны;
3. Правесці краязнаўчую экспедыцыю па вывучэнню германскага ўмацаванага раёна;
4. Апрацаваць сабраныя матэрыялы;
5. Стварыць схему ўмацаванага раёна;
6. Падрыхтаваць справаздачу і прэзентацыю.




Асноўнымі метадамі даследавання былі: літартурны, картаграфічны, апытанне мясцовых жыхароў; апрацоўка і аналіз знойдзеных матэрыялаў; экспедыцыйны; апісанне; фатаграфаванне.

### АНАЛІЗ ТАПАГРАФІЧНЫХ І ГІСТАРЫЧНЫХ КАРТ

Вывучэнне любой тэрыторыі пачынаецца з аналіза карт, на якіх паказана вывучаемая тэрыторыя. Для раёна паміж азёрамі Задзеўскае і Загачча ўдалося



знайсці даволі падрабязную тапаграфічную карту маштаба 1:25000 1965 года выпуска, на якой добра праглядаюцца формы рэльефа.

З гістарычных карт удалося знайсці схему размяшчэння ліній абароны германскіх войск на ўчастку фронту ў ваколіцах Паставаў з пазіцыямі рускай і нямецкай артылерый.

На карце бачна, што паміж азёрамі Задзеўскае і Загачча ў час I сусветнай вайны немцамі былі створаны дзве, а,



месцамі, і тры лініі абароны, за якім знаходзіліся пазіцыі артылерыі.

ПРАВЯДЗЕННЕ КРАЯЗНАЎЧАЙ ЭКСПЕДЫЦЫІ

Для вывучэння германскага ўмацаванага раёна паміж азёрамі Задзеўскае і Дукі 11 снежня 2011 года была праведзена краязнаўчая экспедыцыя. У яе склад уваходзілі вучні 7 і 9 класаў Пастаўскай раённай гімназіі. Кіраўнік – настаўнік геаграфіі Пракаповіч Ігар Міхайлавіч.

У час экспедыцыі былі абследваны ўсе германскія жалезабенонныя ўмацаванні (ДЗОТы) і траншэі, якія ў значнай колькасці засталіся на гэтай тэрыторыі. Таксама адбылася сустрэча з мясцовым жыхаром, які расказаў пра некаторыя эпізоды, звязаныя з часамі I Сусветнай вайны. Удзельні экспедыцыі выявілі і агледзілі пахаванні тагачасныя пахаванні на могілках у вёсцы Дукі.

У час экспедыцыі было знойдзена некалькі гільз, кавалкі ад снарадаў, перанасная печка. Асноўныя моманты экспедыцыі адлюстраваны ў фота і відэадакументах.

АПРАЦОЎКА МАТЭРЫЯЛАЎ ЭКСПЕДЫЦЫІ I СТВАРЭННЕ СХЕМЫ ГЕРМАНСКАГА ЎМАЦАВАНАГА РАЁНА

У час правядзення экспедыцыі быў сабраны матэрыял, каторы дазволіў скласці схему германскага ўмацаванага раёна паміж азёрамі Задзеўскае і Дукі.

Усяго выяўлена і абследавана 20 нямецкіх умацаванняў. Частка з іх



разбурана, але большасць знаходзяцца ў даволі добрым стане.

Некаторыя з іх узвышаюцца над зямлёй, іншыя поўнасцб засыпаны.

У працэсе работы былі вывучаны літаратурныя крыніцы, якія датычацца падзей Першай сусветнай вайны ў ваколіцах горада Паставы, прааналізаваны гістарычныя і тапаграфічныя карты часоў Першай сусветнай вайны, праведзена краязнаўчая экспедыцыя па вывучэнню германскага ўмацаванага раёна, апрацаваны сабраныя матэрыялы, створана схема ўмацаванага раёна. Вясной пашуковыя работы будуць працягвацца.




**Схема размяшчэння германскіх умацаванняў паміж возерам Задзеўскае і вёскай Дукі**

■ - германскія ўмацаванні - жалезабетонныя бліндажы

# ГІСТОРЫКА-ГЕАГРАФІЧНАЕ АПІСАННЕ ВЁСКІ ВЯЛІКІЯ СПОРЫ ПАСТАЎСКАГА РАЁНА

*Гінько Дзіяна*
вучаніца 9 «А»
класа Пастаўскай раённай гімназіі
Навуковы кіраўнік І. М. Пракаповіч



ТЭЗІСЫ ДАКЛАДА

На тэрыторыі Беларусі і Пастаўскага раёна з кожным годам становіцца ўсё менш вёсак. І разам з кожнай вёскай, якая знікае, страчваецца частка нашай гісторыі, нашага народа, нашай культуры, бо кожнае паселішча – гэта свой адметны свет са сваімі традыцыямі і святамі, падзеямі і з'явамі, спадчынай і будзённымі справамі. І ўсё гэта – духоўная каштоўнасць, якую можна страціць назаўсёды. Адной з такіх невялікіх знікаючых вёсак з'яўляецца в. Вялікія Споры. У ёй і яе ваколіцах захавалася шмат цікавых мясцін. Такім чынам, аб'ектам даследавання з'яўляецца вёска Вялікія Споры - на сённяшні дзень невялікае сельскае паселішча, якое знаходзіцца ў паўночна-заходняй частцы Беларусі, ў дзесяці кіламетрах на поўдзень ад горада Паставы на тэрыторыі Пастаўскага раёна.

Таму, тэма праведзенага даследавання была сфармулявана наступным чынам: "Гісторыка-геаграфічнае апісанне вёскі Вялікія Споры Пастаўскага раёна".

Мэтай даследавання з'яўляецца збор і сістэматызацыя матэрыялаў па гісторыі, геаграфіі і культуры вёскі Вялікія Споры для стварэння электроннай базы даных па паселішчы. Перспектыўнай мэтай з'яўляецца напісанне кнігі пра вёску і яе ваколіцы.

Для дасягнення пастаўленай мэты вырашаліся наступныя задачы: 1. Вывучыць літаратурныя матэрыялы і крыніцы інтэрнета па тэме даследавання; 2. Вывучыць гістарычныя і сучасныя карты раёна даследавання; 3. Правесці палявыя даследаванні ў вёсцы і яе ваколіцах; 4. Правесці апытанне мясцовых жыхароў; 5. Апрацаваць атрыманыя матэрыялы, падрыхтаваць справаздачу і прэзентацыю.

Таму гіпотэза з'яўляецца такой: калі правесці грунтоўнае вывучэнне матэрыялаў, звязаных з вёскай Вялікія Споры, то можна адкрыць невядомыя і малавядомыя старонкі яе гісторыі, геаграфіі і культуры, якія можна будзе выкарыстоўваць ў розных сферах дзейнасці (перспектыўнае развіццё, турызм, адукацыя).

Метады даследавання: збор матэрыялаў вёўся рознымі шляхамі. Частку інфармацыі ўдалося атрымаць з гістарычных крыніц, з друкаваных выданняў і рукапісаў, некаторыя звесткі былі знойдзены пад час паездак у В. Споры і суседнія вёскі. Шмат каштоўных дэталяў мясцовай гісторыі ўдалося пачуць з вуснаў мясцовых жыхароў.

Навуковы праект рэалізоўваўся на працягу 2011-2012 года. На падставе сабраных матэрыялаў можна сцвярджаць, што вёска Вялікія Споры мела цікавую гісторыю, багатую культурную спадчыну і да сённяшняга дня захоўвае незвычайную прыгажосць прыроды. Праведзеная работа з'яўляецца асновай для далейшых, больш глыбокіх даследаванняў гэтай мясцовасці.

## ПАХОДЖАННЕ НАЗВЫ СПОРЫ

Назва паходзіць ад возера Споры. Падобнае найменне мае і рэчка Спарыца, якая злучае азёры, і з воз. Споры цячэ ў воз.Задзеўскае. Калі палічыць, што засяленне гэтай мясцовасці ішло па рацэ, то і назва ракі павінна быць першаасновай. Прыдатнае тлумачэнне даюць славянскія мовы. “Спорная вада” – гэта месца, дзе сходзяцца дзве плыні, “сшибка встречных потоков” (Даль). Сапраўды, недалёка ад воз.Задзеўскага ў Спорыцу ўпадала рака Глодаўка. На месцы сутокаў існавала невялікае возера, якое зараз ператварылася ў балота. У гэтым возеры і маглі актыўна праяўляцца буруны, вадавароты, інакш кажучы, спорная вада. Нельга выключыць і паходжанне назвы з фіна-вугорскіх моў, дзе “сора” мае сэнсавыя значэнні “рэчышча ракі”, “сутокі рэк”, “невялікая рэчка”.



Мясцовыя жыхары расказваюць сваю версію паходжання назвы. Было гэта даўно, пры прыгонным праве. Землі, дзе зараз знаходзіцца вёска, належалі аднаму пану, які жыў у Варшаве, людзі працавалі на яго.
Неяк аднойчы ўзяў гэты пан, ды і прайграў у карты зямлю, дзе знаходзілася вёска, а заадно і суседнюю вёску, дзе была яго сядзіба, іншаму пану па прозвішчы Дмухоўскі. Вёскі былі прайграны, г.зн. “праспораны” і назваў іх пан Дмухоўскі Споры: /вёску большую – Споры Вялікія, вёску меншую - Споры Малыя або Спorкі/.

## ЛЕГЕНДА ПРА КАСЦЁЛ

Гэта было даўным-даўно. Мясцовыя жыхары гавораць, што недалека ад Спор, у лесе быў касцёл. У гэты касцел хадзілі маліцца і дарослыя, і дзеці; і грэшныя, і



нявінныя; і, калі былі святы, і калі было гора. І хоць у гэтым касцеле не бывала ніякіх святых і цудаў, людзі адтуль выходзілі чыстыя душой, быццам яны толькі-толькі самі гаварылі с Богам і той дараваў ім усе грахі, якія ў іх былі. Аднойчы, калі ішоў малебен, касцёл з людзьмі пачаў апускацца ў зямлю – і апусціўся. Яшчэ доўгі час яго вежы віднеліся над зямлёй, і толькі потым зніклі. На гэтым месцы з’явілася высокая гара. Пасля гэтага, раз у год, можна, калі доўга прыслухоўвацца, пачуць ледзь-ледзь чутны малебен і адчуць, як Бог адпускае табе ўсе грахі і ты становішся чыстым-чыстым у душы, як дзіцё...

## МОВА ЖЫХАРОЎ

Мясцовае насельніцтва больш гаворыць на рускай мове або “трасянцы” (напрыклад: “я старажытнасць гэтай дзярэвні ні знаю”). Многія жыхары лічаць сябе нашчадкамі палякаў, і толькі некаторыя – беларусаў. Таму адразу карысталіся змешанай “польска-беларускай” мовай, потым прымяшалася яшчэ і французская (адтуль прыехала сям’я з 12 чалавек), далей дабавілі рускую, але некаторыя прывычныя словы, выразы засталіся.

# ГІСТОРЫКА-ГЕАГРАФІЧНЫ АНАЛІЗ НАЗВАЎ ВУЛІЦ МЯСТЭЧКА ПАСТАВЫ КАНЦА XVIII СТАГОДДЗЯ

(урывак з працы Віталія Літвіновіча, вучня 10 «В» класа СШ №1)



Пасля далучэння усходняй часткі Рэчы Паспалітай да Расійскай імперыі ў час другога і трэцяга падзелу Пастаўшчына апынулася ў складзе суседняй дзяржавы. У 1798 годзе быў складзены план мястэчка Паставы – першы афіцыйны дакумент, які адлюстоўваў тагачасны стан паселішча.

Аналіз гэтага плана, а выкананы ён у маштабе 1:10000, дазваляе вызначыць некаторыя асаблівасці населенага пункта. Бачна, што асноўнымі артэрыямі Паставаў на той час з’яўляліся чатыры вуліцы, якія разыходзіліся ад Рынкавай плошчы ў напрамках на чатыры бакі свету. На поўнач ішла Браслаўская (цяперашняя назва – Ленінская), на поўдзень – Віленская (цяпер – Савецкая), на захад – Задзеўская (цяпер – 17 верасня), на ўсход – Зарэчная, пазней Лучайская (цяпер - Чырвонаармейская). Першая вуліца, Браслаўская, была названа так, таму што вядзе ў напрамку Браслава. Вуліца Віленская была названа так, бо вядзе ў напрамку Вільні (ў старажытнасці з’яўлялася сталіцай Вялікага княства Літоўскага). Трэцяя вуліца, Задзеўская, была названа так, бо вядзе ў напрамку мястэчка Задзеўе. Вуліца Зарэчная была названа так, таму што знаходзілася за ракой Мядзелка, а пазней яна называлася Лучайская, бо вяла ў напрамку мястэчка Лучай. Усяго ж на плане Паставаў 1798 года можна налічыць толькі 8 вуліц, бо ўся забудова мястэчка вялася на той час вакол Рынкавай плошчы і на Зарэччы каля францысканскага кляштара.

Вуліцы на той час былі кароткія. Віленская вяла прыблізна да Гарбаркі, далей – каля палацавага комплекса Тызангаўзаў. Задзеўская заканчвалася дзесьці каля сучаснай Камсамольскай плошчы, Лучайская – выходзіла на поле за сучасным раённым домам культуры, Браслаўская – існавала толькі да паварота на МСО, Зарэчная працягвалася да сучаснай вуліцы Кляра.

Назвы іншых 3 вуліц засталіся невядомымі: гэта пачаткі цяперашніх Кастрычніцкай, П. Марозава і Кляра. У народнай памяці засталіся назвы, якія звязаны з некаторымі з іх. Так, вуліцу П. Марозава зрэдку называюць “Красная”, а вуліцу Кляра – “Народная”. Аднак, вызначыць, калі яны ўзніклі, не ўяўляецца пакуль магчымым.

*Нумар падрыхтаваны да друку 9.04.2012 сябрамі краязнаўчага таварыства імя К. Тызенгаўза і ўдзельнікамі школьных краязнаўчых тварыстваў «Ювента» і «Terra Incognita».*



**Шыпшына**
*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч

Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52. Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч

*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*

*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*

*Наклад 100 асобнікаў*